ISSN 0700 – 5172

*ВАЮЙ, НАРОДЗЕ, ЗА СВАЕ ПРАВЫ! – К.Каліноўскі*

ЗА ВОЛЮ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ!



# ЗВАЖАЙ

Часапіс Беларускіх Вэтэранаў. Выдае Камітэт Сувязі Быўшых Беларускіх Вайскоўцаў

ZVAZAJ – Magazine, published quarterly by Liaison Committee of Byelorussian War Veterans. *Address: ZVAZAJ, 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont., M4K 1C2*

Год 6 Верасень, 1979 №3 (15)

## ПЯЦЬ ГАДОЎ

Сёлета, 17 – 18-га жнівеня, мінула пяць гадоў ад часу, як у 1974-м годзе, у ангельскім горадзе Манчэстары, адбылася Першая Сусьветная Сустрэча Беларускіх Вэтэранаў. Пяць гадоў часу, ведама, адрэзак невялікі дый пятыя ўгодкі ніякі ня юбілей, але для нас, што падтрымоўваюць беларускія вайсковыя традыцыі, ён даволі важны, каб спыніцца й крыху аглянуцца назад.

Сустрэча, як ведама, пастанавіла тады ўзмацніць сувязі між быўшымі беларускімі вайскоўцамі, выбрала для гэтага камітэт (КСБВ) й пайшла насустрач думцы, каб выдаваць асобны, незалежны ад ніякіх нашых палітыкаў, чыста вайскова-вэтэранскі беларускі часапіс. Вось такім чынам нарадзіўся часапіс "Зважай", які першы раз выйшаў у лістападзе таго-ж году, а цяперашні нумар гэта з чаргі пятнаццаты.

Варта прыгадаць, што зьяўленьне беларускага часапісу, прысьвечанага нашым вэтэранскім і вайсковым справам, адразу спасьцераглі ведамыя кадэбэшнікі з Голасу радзімы" й паўзуны наводля мацкевічаў і іншых бягуноў заатакавалі нас некалькі разоў запар. Гэтым самым прыйшлі яны нам у карысьць, бо шматлікія суродзічы (не абавязкова ваенныя вэтэраны), спасьцярогшы хто й што клюе, пасьпяшылі нам на помач.

Ведаючы, што "зь вялікае хмары часта бывае малы дождж", КСБВ выпусьціў "Зважай" на сьціплых пачатках – прынамся два разы ў год. На вялікі жаль, грашовыя цяжкасьці аказаліся значнымі. Справа ня ў тым, што нашыя вэтэраны ці наагул суродзічы ёсьць бедныя, але ў тым, што некаторыя, як звычайна людзі робяць, аглядаліся мяркуючы, ці памагчы ці далей пачакаць.

І падобная-ж праблема з супрацоўнікамі. Добра гэта ці дрэнна, – мяркуйце самі, – палітыканаў у нас не бракуе, але каб за працу каторы ўзяўся ды памог там, дзе помач запраўды неабходная, гэта рэч зусім іншая. Дык і гэтта ці раз даводзілася бакамі рабіць.

Цяпер сьмела можна сказаць, што "Зважай" зусім вырас зь пялёнак, стаў на добрыя ногі й мае, як мяркуем, нядрэнную будучыню. Як кагадзе пісаў нам сп. Слонімскі: "Дадаткова хачу выказаца, пераглядаючы сьпісак падпісчыкаў і ахвярадаўцаў, што наш "Зважай" мае паважных чытачоў. Нават нашыя дактары ўжо зацікавіліся ім, можа і яны пачнуць пісаць успаміны".

Да ведама сп. Слонімскага, які, дарэчы, першы пасьпяшыў на помач, яшчэ перад тэй Сусьветнай Сустрэчай: дактары нашы й генэралы зацікавіліся часапісам і чытаюць яго даўно. Аднаго трэба жадаць, каб далучыліся з большай помачай, каб абыйму часапісу можна было павялічыць, а дзеля гэтага патрэбныя матар'ялы й грошы.

Асабліва важнымі ёсьць матар'ялы. Мы пераконаны, што між нашых вэтэранаў, дый не абавязкова вышэйшых рангамі, ёсьць яшчэ шмат такіх, што маюць нешта напісанае, або могуць напісаць і апрацаваць. Галоўна дзеля таго, каб зьмяшчаць матар'ялы пра беларускую вайсковую гісторыю, "Зважай" і паўстаў. Дык запрашаем усіх аўтараў да ўдзелу.

Аглядаючыся назад, сьпяшым падзякаваць за падтрыманьне часапісу тым сябром і суродзічам, якія запраўды гэтага заслужылі. Гэтта на першым месцы наш ананімны (на ягонае жаданьне) сябра, які ў час найбольшага фінансавага крызысу, калі часапіс яшчэ ня стаў на ногі, ахвяраваў аж 200 даляраў, значыцца кошт выданьня аднаго нумару. З удзячнасьцю згадваем нашых кальпартэраў: М.Нікана й А.Качана ў Аўстраліі, М.Яськевіча ў Англіі й С.Гутырчыка ў ЗША. На помач прыйшло ЗБВБ і Беларускі Клюб у Манчэстары, а бадай найбольш выдатна памаглі нам беларускія вэтэраны зь Нью Брансвіку. Ім, як добразарганізаванаму адзьдзелу, належыцца падзяка й пашана.

Дзякуем за падтрымку й пазьней паўсталаму адзьдзелу Беларускіх Вэтэранаў у Кліўлендзе, ды асабліва руплівому кальпартэру "Зважай" Я. Каваленку.

Спытаюць нас: ну а што-ж там у вас, у Тароньце? Адказваем: тут заўсёды вялікая... парафіяльная й палітыкачская актыўнасьць. Праўда, вэтэраны гэтта не зьвяліся дый шчэ доўга (няхай ім Бог пасобіць) жыць будуць. Але, як ведама, арганізацыі ня маюць, бо няведама катораму прэзыдэнту падпарадкоўвацца. Прыгадваецца той асёл між двух стагоў сена...

На гэтым і скончым, спадзяючыся на плённыя наступных пяць гадоў, а там далей відаць будзе!

В. Сенькевіч

## БЕЛАРУСЫ НА МОНТЭ КАСЫНО

Сёлетняе сьвяткаваньне ўгодкаў бітвы за Монтэ Касыно адбылося 18-га травеня, у дзень здабыцьця, 35 год таму назад, самога монтэкасынскага манастыра II-м Польскім Корпусам. Як ведама, здабыцьцё Монтэ Касына было аднэй з найважнейшых перамогаў заходніх хаўрусьнікаў. Перамога гэтая адкрывала дарогу на Рым, прыбліжаючы канчатковую апаразу гітлераўскае Нямеччыны.

Апроч шматтысячнага мясцовага італьянскага жыхарства й шасьці тысяч Палякаў, у сьвяткаваньні ўзялі ўдзел Папа Ян Павал II, прэм'ер-міністар Італіі Джульё Андрэоці й дэлегацыя ад Беларусаў.

У беларускую дэлегацыю ўвайшлі тры вэтэраны вайны з Італіі: а. Кастусь Маскалік, сп. Хведар Кажаневіч і др. Віктар Сенькевіч. Дэлегацыя ўдзельнічала ў сьвяткаваньні ўпяршыню за апошнія 35 гадоў, прычым незалежна ад польскіх камбатанцкіх арганізацыяў, якія сьвяткаваньне гэнае арганізавалі.

Пасьля прыбыцьця на могілкі, на месцы, дзе гарэў зьніч, беларускія вэтэраны зложылі вянок зь бел-чырвона-белай стужкай з напісам: "Сябром, што загінулі, каб жыла Бацькаўшчына – Беларускія Вэтэраны" у беларускай і італьянскай мовах, каб ушанаваць памяць нашых землякоў, што аддалі сваё жыцьцё за свабоду. Сваёй хвормай (вянок нагадваў курган) і прыгажосьцяй (ён быў сплецены зь белых і чырвоных гвазьдзікаў) беларускі вянок прыцягваў увагу ўдзельнікаў сьвяткаваньня, выклікаючы прыхільныя камэнтары й сымпатыю да Беларусаў.

Гэтак напярэдадні, як і пасьля заканчэньня сьвяткаваньняў, сябры беларускай дэлегацыі стараліся інфармаваць чужынцаў пра ўдзел Беларусаў у здабыцьці Монтэ Касына ды наагул пра ўдзел Беларусаў у часе II-й Сусьветнай Вайны на заходніх франтох і, асабліва, у баявых дзеяньнях у Італіі. Гэтта прыпомнім, што паводля нашых падлікаў (гл. "Зважай", № 8, бб. 6-7, і № 9, бб. 2-5) іх было каля 30 тысяч. Што да загінуўшых, якія спачылі на польскіх могілках пад Монтэ Касыно, на агульную лічбу каля 1 100 пахаваных там каля 24 працэнты складаюць Беларусы або ўраджэнцы Беларусі (дакладней: 259). Наагул-жа ў баёх у Італіі загінула 863 Беларусы або ўраджэнцы Беларусі.

Апрача моглікаў пад Монтэ Касыно, нашы суродзічы пахаваныя таксама на вайсковых могілках ля Балёніі (287), Лёрэта (234), Касамасіма (72) і 11 параскіданыя па іншых могільніках Італіі (Казэрта, Чэзэна, Фэрмо, Бары, Таранто, Монтэфано, Рыміні, Агульяно, Кеты-Пэскара, Монтэ-Чэрэта).

У сувязі ізь сьвяткаваньнем 35-х угодкаў перамогі пад Монтэ Касыно, варта адзначыць адзін важны факт, а менавіта тое, што, як часта ў нас бывае, змагаемся на ўсіх франтох, здабываем цьвярдыні, якіх ня могуць здабыць іншыя, маем шмат іншадумцаў на бацькаўшчыне, дзе квітнее самвыдавецкая літаратура, аднак, і на вялікі жаль, ня ўмеем усяго гэтага прапагаваць навонкі, не інфармуем пра гэта чужынцаў. У выніку, "Монтэ Касыно здабылі Палякі", "У Беларусі няма дысыдэнцкага руху" і г.п. Гэты апошні закід зусім беспадстаўны, што пацьвярджаюць асобы, якія так ці гэтак змаглі пабываць у Беларусі або выехаць на Захад з Савецкага Саюзу. Таму пра ўсё гэта трэба добра падумаць ды пачаць дзейнічаць у адпаведным кірунку.

На заканчэньне хацелася-б на гэтым месцы шчыра падзякаваць добраму сябру Беларусаў, Італьянцу Артэміё-Арцёму за ягоную ахвярнасьць і клопаты ды дапамогу нам у дзень сьвяткаваньня ўгодкаў перамогі пад Монтэ Касыно, бо запраўды дзякуючы яму беларуская дэлегацыя, ня гледзячы на тое, што на яе зарганізаваньне й прыезд у Рым мы мелі толькі каля трох тыдняў часу, змагла прыбыць на Монтэ Касыно ў час і выканаць свой грамадзка-патрыятычны абавязак (былі мамэнты, калі выглядала, што дабрацца да Монтэ Касына ў 1979 г. было не лягчэй чымся было ў 1944 годзе. Шчырае дзякуй таксама вэтэранам з Манчэстару, якія пакрылі кошты за цудоўны вянок.



*Монтэ Касыно.*
*На пярэднім пляне могільнік загінуўшых жаўнераў у ліку якіх адна чвэрць Беларусаў, або ураджэнцаў Беларусі.*

---

## І ГЭТА ЎЖО ЎСЬПЕЛІ ПРАДАЦЬ.

Артыкул у "Рыдэрс Дайджэст" за сёлетні жнівень інфармуе нас, што тайніцы найбольш тэхнічна ўдасканаленага амэрыканскага камунікацыйнага сатэліта КГ-11 ужо ад сакавіка, 1978 году ў бальшавіцкіх руках. Прадаў іх за 3 000 даляраў нехта В. Кампілес, ранейшы працаўнік СІА (ЦРУ), які на судзе атрымаў за кару 40 гадоў вязьніцы.

Сатэліт КГ-11 у часе палёту над тэрыторыяй пад акупацыяй уладаў СССР робіць здымкі засакрэчаных аб'ектаў і адразу-ж перасылае іх на базу. Гэта адзін сатэліт такога роду. Ці ня ён гэта мае правяраць ці Масква датрымае ўмову пра абмежаваньне стратэгічнае зброі?

# УШАНАВАНЬНЕ ЦІ ПАКЛЕП?

Адказ на артыкул А.Калодкі "Пётра Родзевіч у 36-я ўгодкі арышту й 35-я ўгодкі сьмерці", надрукаваны ў часапісе "ЗВАЖАЙ" № 1 (13) за сакавік 1979 г.

*Заўвага Рэдакцыі:* На жаданьне аўтара зьмяшчаем матар'ял бязь ніякіх зьменаў.

Калі я прачытаў гэты артыкул, дык у мяне паўстала зьдзіўленьне ды абурэньне на рэдактара "Зважай" К.Акулу, які пусьціў у друк рэч, што не павінна была друкавацца наагул. Нясмак і абурэньне я пачуў ад шматлмкіх беларусаў. Чаму гэты артыкул друкуецца сяньня, пасьля 35-ці гадоў ад сьмерці П. Родзевіча? Каб ушанаваць памяць памерлага? Выглядае — не, бо-ж ці так памінаецца адышоўшая асоба? Тут выглядае, што пад гэтым "ушанаваньнем" прапіхнуты пашквіль на праваслаўнага сьвятара а.П.Саўчыца, артыкул поўны няпраўды й хворых выабражэньняў.

Маё першае ўражаньне, прачытаўшы гэты артыкул, было тое, што ён напісаны на ўзор артыкулаў друкаваных у "Голасе Радзімы" на "Бебурнацаў", у якіх перадусім увялічвалася "веліч", каб гэтым пазьней увялічыць "праступства" таго, каго яны крытыкуюць.

Другое ўражаньне, што гэты артыкул напісаны скрайнім шавіністым каталікафілам, бо што немцы вынішчалі праваслаўных, гэтага ён ня бачыць, а толькі каталікоў, якія пацярпелі па поваду даносаў праваслаўных беларусаў — а немцы тут ні пры чым.

Трэцяе, ня ўражаньне, а пытаньне: чаму цяперака такі артыкул напісаны й надрукаваны? У адказ на гэтае пытаньне, паўстае другое пытаньне: ці гэта ня новая акцыя "цемняроў"? ("Летапісь", № 10, 1976 г., артыкул Л. Галяка "Лісты цемняроў".)

Каб апраўдаць уражаньні й адказаць на гэтае пытаньне, праананалізуем праўдзівыя факты, пастараемся адказаць на пытаньні: Чаму немцы арыштавалі П. Родзевіча і А.Калодку? Па чыей віне? Ды чаму пра гэта пішацца няпраўда?

Факты:

Падзеі парушаныя ў гэтым артыкуле адбываюцца ў Вялейцы, дзе знаходзіліся нямецкія акупацыйныя й беларускія адміністрацыйныя ўстановы. Час, ад пачатку вайны Нямеччыны із Савецкім Саюзам, г.з. ад чэрвеня 1941 г. да арышту Родзевіча й Калодкі 23 сакавіка 1943 г., абыймае толькі 20 месяцаў.

Установы й становішчы закранутыя ў артыкуле А. Калодкі наступныя:

Беларуская Народная Самапомач (БНС). Павятовымі кіраўнікамі былі: П.Саўчыц да лютага 1943 г., пасьля яго Бабровіч, які ў 1944 годзе пайшоў у партызаны.

БНС — акруговымі кіраўнікамі былі: Ч.Найдзюк да восені 1942 г., пасьля К.Касяк да лютага 1943 г., які быў адначасна мужам даверу. Ад лютага 1943 г. да сакавіка 1944 г. быў П.Саўчыц, а пасьля яго да канца быў Русовіч.

Акруговым школьным інспэктарам быў Сыраквас, а павятовым быў Дуровіч.

Начальнікамі Вялейскага павету былі: Сапежка, Сініцкі, Родзеівч і Чалоўскі.

Беларускі сьледчы аддзел пры СД быў створаны дзеля прасочваньня розных рапартаў і даносаў. Кіраўніком гэтага аддзелу быў немец Дуклов, шэфам канцылярыі — беларус В.К. В.Перамыкін у гэтым аддзеле працаваў як і іншыя шэсьць чалавек. Усе яны насілі цывільную вопратку за выняткам Перамыкіна, які насіў на зьмену то нямецкі то расейскі мундзір з рангай палкоўніка. У аснаўным ён быў "чудаком" і яго ніхто за паважнага чалавека ня лічыў, хіба толькі некаторыя дамачкі, дзеля таго, што ён зь імі ўмеў далікатна абыходзіцца.

Людзі:

П.Родзевіч — каталік, законьнік Марыянін, арганісты. Пакінуў закон, ажаніўся з полькай, меў зь ёю двое дзяцей, пакінуў яе ды жыў з другою. Займаў становішча школьнага інспэктара ў Сьвірскім павеце, пераехаў у Вялейку й па нейкім часе пасьля Сініцкага абыймае становішча начальніка павету. Арыштаваны 23 сакавіка 1943 г. У той час яму было каля 37 гадоў.

А.Калодка — праваслаўны, перайшоў на каталіка, кончыў праза на Віленскім Унівэрсытэце. Студэнтам належаў да карпарацыі Скарыніяна а пазьней да Палёнія. У Вялейцы займаў становішча інспэктара паліцыі, а ў сутнасьці быў перакладчыкам у жандармэрыі. Начальнікам паліцыі ў Вялейцы быў хто іншы. Пазьней перайшоў у Суд, дзе кіраўніком суду быў М.Куніцэвіч. Арыштаваны 23 сакавіка 1943 г. У той час яму было каля 36 гадоў.

П.Саўчыц — праваслаўны, кончыў пэдагагічны інстытут. Спачатку павятовы кіраўнік БНС у Вялейцы да лютага 1943 г. Адначасна працуе настаўнікам беларускае мовы й гісторыі ў 7-мі клясовай школе. Займае становішча акруговага кіраўніка БНС (пасьля Касяка) ў лютым 1943 г. да сакавіка 1944 г. Ад гэтага часу займае становішча акруговага кіраўніка прафсаюзаў. У той час яму было 20 гадоў.

К.Касяк — праваслаўны, інжынер (будовы дарог і мастоў). Спачатку займае становішча кіраўніка павету ў Валожыне, а патом у Крывічох. Пераязджае ў Вялейку і абыймае становішча акруговага кіраўніка БНС (пасьля Найдзюка) і мужам даверу. У лютым 1943 г. пераязджае ў Мядзель і займае становішча Начальніка Мядзельскага павету. Гэты павет быў акружаны партызанамі й адтуль ён ня выехаў. У той час яму было 26 гадоў.

Што праўда, а што не:

П.Родзевіч школьным інспэктарам у Вялейцы ня быў. Паводле А.Калодкі, у праміжутку ня цэлых 20-ці месяцаў Родзевіч змог зрабіць столькі, што Сьвірскі павет "прыняў беларускі характар", бо раней быў польскі. У Вялейцы арганізуе хоры, школы і здабывае "вялікую папулярнасьць сярод мясцовага насельніцтва", а перадусім "ён патрапіў сканцэнтраваць у сваіх руках усе ніці беларускага нацыянальна-вызвольнага змаганьня". Сапраўды трэба быць супэр-чалавекам, каб гэта аднаручна асягнуць у так кароткім часе. Я ў гэтым моцна сумняваюся й лічу за нахабнае ўвялічэньне заслугаў аднаго чалавека на шкоду і паніжэньне іншых, што

жылі й працавалі ў Вялейцы. А.Калодка ясна кажа: Бачыце які гэта быў вялікі чалавек, а яго зьнішчылі праваслаўныя даношчыкі.

Сам-жа Калодка піша: "...як ужо акруговы кіраўнік Беларускае Народнае Самапомачы злажыў войстры пратэст у Гэстапо." Што злажыў "пратэст" можа й праўда, але што быў акруговым кіраўніком БНС – гэта няпраўда. Чаму такое самаувелічэньне? Выглядае, што толькі ён адзін дзейнічаў у Вялейцы ды складаў "пратэсты" за пагромы на каталіцкае насельніцтва робленыя ня немцамі, а Перамыкінам і другімі.

Намесьнік БЦР Др. Я.Малецкі, які прыбыў у Вялейку ў сакавіку 1944 г., ня мог назначыць кіраўніком Самапомачы П.Саўчыца, бо той ужо быў акруговым кіраўніком прафсаюзаў. ("Пад Знакам Пагоні", Др. Я. Малецкі, бачына 130).

Хто мог арганізаваць *Einsatz*, г. зн. акцыі супраць насельніцтва?

"Перамыкін і ягоныя 'малайцы', сярод якіх былі, на ганьбу і беларусы, гулялі па ўсей акрузе" – гэткае цьверджаньне А.Калодкі зьяўляецца абсалютным абсурдам. Тыя, што працавалі на кіраўнічых становішчах у беларускай адміністрацыі, або нямецкіх установах; тыя, што які-небудзь бралі ўдзел у нацыянальным беларускім жыцьці, і тыя што мелі ўгляд або маглі аб'ектыўна аналізаваць падзеі ім было ведама:

а) Што Перамыкін і даношчыкі Гэстапо не маглі на сваю руку арганізаваць пагромаў.

б) Што начальнікі паветаў, кіраўнікі самапомачы, начальнікі паліцыі (было гэта мясцовага пастарунку, павятовае або акруговае паліцыі) ня мелі права арганізаваць ніякіх акцыяў на сваю руку супраць мясцовага насельніцтва, ня гледзячы якое нацыянальнасьці або веравызнаньня.

в) Акцыямі супраць партызанаў і рэпрэсыі супраць насельніцтва за дапамогу партызанам кіравала нямецкая Жандармэрыя, якая карысталася сваімі фармацыямі й фармацыямі СС, што ў той час знаходзіліся на данай тэрыторыі або паклікаліся для гэтае акцыі.

г) Кожная акцыя была загадана галоўным камандаваньнем Жандармэрыі Камісарыяту й на гэта выдаваліся прыдзелы зброі, бэнзыны, прадуктаў ды іншыя рэчы, якія ўважаліся за неабходныя для правядзеньня акцыі.

д) Пасьля кожнай акцыі пісаліся рапарты, якія ўключаліся ў загады гал. кам. жандармэрыі, у якіх падаваліся імёны палеглых у акцыі з ворагам, незалежна ад нацыянальнасьці, колькі забіта ворагаў, сколькі арыштавана, і сколькі спалена сёлаў.

Чаму Родзевіч і Калодка былі арыштаваныя?

А.Калодка піша, што пасьля нападу на вёску Халапы, ён (як акруговы кіраўнік БНС) і начальнік павету Родзевіч злажылі "пратэст" у Гэстапо й Акруговы Камісарыят (акупацыйныя нямецкія ўстановы). Пазьней, калі В.Перамыкін заявіў, што "беларуская інтэлігенцыя – гэта камуністы", яны злажылі "пратэст" у Гэнэральны Камісарыят у Менску, і ў адказ на гэта яны былі 23 сакавіка 1943 г. арыштаваныя.

Абэдвы "пратэсты" былі творамі А.Калодкі і, як выглядае, асабліва апошні пратэст быў зроблены не ў адпаведны час, у не адпаведнай форме і без адпаведнага палітычнага абгрунтаваньня. Адным словам – "пратэсты" былі напісаныя недасьпелым палітычна чалавекам.

Трэба сабе ўявіць, што гэта быў за "пратэст", калі Ермачэнка заявіў: "Нічога рабіць ня буду. Так ім і трэба". Хіба др. Ермачэнка не хацеў нічога зрабіць не таму, што яны былі каталікамі, а таму, што "пратэст" (у паданай форме) быў абсалютна не пад сілу абараніць, і ён нічога зрабіць ня мог.

Дык вось, дзякуючы "пратэстам" А.Калодкі быў арыштаваны Родзевіч, а зь ім і сам аўтар.

Пасадзіўшы ў вязьніцу, Гэстапо праводзіла далей сьледзтва. І так здарылася, што знайшлася ў Вялейцы ў гэты час першая жонка Родзевіча, якая каб памсьціцца, сабрала ягоныя і яго сябры Калодкі ўсё тое, што магло іх інкрымінаваць з палянізатарскай дзейнасьці з часоў Польшчы ды пазьнейшыя іх кантакты з палякамі.

Паводле Калодкі, доказы, якія для Гэстапо здабылі Саўчыц і Касяк у форме вайсковае кніжкі, карпарацыйнае шапкі, унівэрсытэцкага дыплёму ды прыватныя лісты да дзяўчат былі повадам да арышту й турмы. Гэта ня было прычынаю трыманьня ў вязьніцы, бо кожны беларус здабыўшы вышэйшую асьвету пад Польшчай меў гэтыя рэчы й іх за гэта не арыштоўвалі й не трымалі ў вязьніцы праваслаўных або каталікоў. Відаць немцы ўжо тады ведалі, што яны былі супраць "новага парадку", аб чым мы даведаліся толькі цяпер з кніжкі "Пад Знакам Пагоні", а гэта было дастаткова для немцаў, каб зьнішчыць чалавека.

Уяўленьні:

А.Калодка называе Саўчыца і Касяка "агэнтамі" Гэстапо, у той час калі яны афіцыяльна нічога супольнага з Гэстапо ня мелі.

Тэрмін "агэнт" тарнуецца да чалавека, які афіцыяльна і адкрыта рэпрэзэнтуе або працуе для нейкае ўстановы або нават фізычнае асобы. У даным выпадку А.Калодка мае на ўвеце "даношчыка" – чалавек які даносіць пра што-небудзь, або на каго-небудзь сакрэтна, у нейкую ўстанову або проста другому чалавеку.

У Вялейцы, як і ўва ўсей Беларусі былі даношчыкі рознага характару, без якіх, нажаль, ніводнае грамадзтва не змагло абыйсьціся, і не пазьбегла гэтага і беларускае, асабліва, у такі цяжкі пэрыяд, калі кожны сьведамы беларус змагаўся за сваё асабістае жыцьцё і за жыцьцё Бацькаўшчыны. Бязумоўна і ў Вялейцы былі даношчыкі а між імі былі й каталікі, прозьвішчы якіх былі ведамыя працаўніком Беларускага Сьледчага аддзелу, а таксама і іншым. Але тут мы іх не ўспамінаем, бо няма патрэбы.

"Аб так званай Валожынскай акцыі" ў допісе Калодка піша: "Гэта былі сьведамыя беларусы й адзінай іхнай "віною" было тое, што былі каталікамі. Арыштавалі іх зь некалькімі каталіцкімі ксяндзамі падчас тэрарыстычнае акцыі агэнтаў вялейскага Гэстапо Пятра Саўчыца й Касутсі Касяка, якія на чале гэстапаўцаўлатышоў выбраліся на барацьбу з партызанамі."

Што за глупства піша чалавек "на чале" гэстапаўцаў абсурд і няпраўда. Бачыце якую ўладу мелі ў Вялейцы 20-ці гадовы Саўчыц і 26-ці гадовы Касяк. Тут паўстае пытаньне: Што-ж вы "старэйшыя дзеячы" юрыстыя й розныя дактары ў той час рабілі? Дзе вы былі, што дапусьцілі "дзяцюкоў" узяць такую вялікую ўладу ў свае рукі? Відаць, праўдай ёсьць што гралі ў покера з тым самым Перамыкіным, ня гледзячы на тое, што Родзевіч сканцэнтраваў усе ніці беларуска-нацыянальнага змаганьня ў Вялейцы. Цікава якая гэта была канцэнтрацыя?

Аб так званай акцыі ў Жодзішках, якая папярэдзіла Валожынскую, Калодка ня піша. На Жодзішкі напалі польскія партызаны, якія выбілі ўсіх праваслаўных беларусаў. Данесеныя імёны й паказаныя хаты, не агэнтамі, а даношчыкамі каталікамі. Аднаму чалавеку ўдалося ўцячы, гэта інж. Уладзімеру Брылеўскаму, (ён праваслаўны), каторы цяперака пражывае ў ЗША.

Калодка піша: "Кастусь Касяк надакучыў і Вялейскаму Гэстапо й гэбітскамісару Шмідту". Дык вельмі цікава, калі ён быў такі ўслужлівы агент, чаму яго немцы хацелі пазбыцца, высылаючы ў партызанамі акружаны Мядзель? Абсалютна незразумела, як ён мог так шмат рабіць для немцаў з аднаго боку, а з другога гэтыя-ж немцы яго не зьлюбілі ды сьведама паслалі на загубу.

Але як выглядае, К.Касяк быў беларускім патрыётам, дзейным чалавекам і ня ўцёк з свайго пасту, як гэта зрабілі некаторыя, ды загінуў за сваю Бацькаўшчыну.

Экзальтацыя Калодкі, што бальшавікі даканалі справядлівасьці й "даношчыка" на каталікоў павесілі — паказвае аб маралі пярэхрыста, якая напэўна ня прыносіць ніякага гонару добрым каталікам беларусам.

Праўду сказаў міністар царскае Расеі Вітэ: "Няма горшага антысэміта — як выхрышчаны жыд".

А цяпер да ведама Калодкі й яму падобным адносна праваслаўнае царквы грэцкае юрыздыкцыі. Вось-жа а.П.Саўчыц ад 6-га лістапада 1977 г. зьяўляецца настаяцелям Амэрыканска-Беларускай Незалежнай Праваслаўнай Царквы Сьв.Кірылы Тураўскага ў Рычмонд Гіл, Нью Ёрк. Людзі, што былі адлучаныя ад Царквы БАПЦ і недапушчаныя ў царкву маліцца праз суд Архіепіскапам Васілём (Тамашчыкам), пад такім назовам зарганізавалі прыход і пабудавалі новую Царкву, сваімі ўласнымі рукамі й за свае ўласныя грошы. Гэтая Царква, твор беларусаў, моцна пакрыўджаных, мае сяньня вартасьць больш за чэцьверць міліёна даляраў, зьяўляецца дасягненьнем, што падзіўляе ня толькі беларусаў.

Бязумоўна, прыход часова знаходзіцца пад апекай Экзарха Канстантынопальскага Патрыярха, бо іншага выхаду ў такіх абставінах ня было. Адлучаныя ад царквы, паданыя ў суд Уладыкам Тамашчыкам. Судовая расправа № 17212/1967 г. запачаткаваная 15 лістапада 1967 г. Апеку над прыходам Уладыка Андрэй (Крыт) з Кліўленду адказаўся ўзяць сваім лістом з 10 лістапада 1968 г. дзеля салідарнасьці з Тамашчыкам, якога пазьней сам з Епархіяльнай Управай падалі ў суд, пасьля сьмерці, за прысабечаньне царкоўных грошай. Судовая расправа запачаткаваная 16 сакавіка 1971 году цягнулася аж да лета 1977 году.

## *ДАРОГА СЬМЕРЦІ*

Хутка імкнецца цягнік Франкфурт — Гамбург. Зь ягоных вокнаў бачу прыгожы Гарц, ізноў бачу дарогі, што як зьмеі абвіваюць горы і ўзгоркі аднэй з найпрыгажэйшых частак Нямеччыны. Ня першы раз бачу я Гарц. У ягоных горах давялося мне працаваць блізу два гады, а ўжо пад канец вайны 1939-1945 г. прайсьці яго ўвесь уздоўж.

4-га красавіка, 1945 г. дасталі мы, вязьні канцэнтрацыйнага лягеру Роттлебэродэ — Паўдзённы Гарц, неспадзеўкі загад рыхтавацца ў дарогу. Было нас 1996 чалавек розных нацыянальнасьцяў. Яшчэ ў чэрвені 1944 г., хутка пасьля пачатку інвазіі аліянтаў, інтэлігенцыя нашага лягеру, сярод якой пераважала студэнцкая моладзь, пачала арганізавацца. Частыя нарады ейных прадстаўнікоў, што зьбіраліся ў вялікім сакрэце, мелі на мэце апрацаваць плян вызваленьня вязьняў у час, калі больш прыблізіцца да нас фронт. Мы лічылі, што Немцы могуць спрабаваць ня выпусьціць нас з канцэнтрацыйнага лягеру жывымі.

Тымчасам фронт прыбліжаўся да нас вельмі памалу, а тэрор у лягеры з кажным днём большаў. Зьменшылі харчовыя прыдзелы (букатка хлеба на 6, пазьней-жа на 10 чалавек) збольшаныя тэмпы працы, сыпны тыфус, усё гэта спрычынілася, што тыднёвыя страты людзей даходзілі да 50. Кажнае сыботы з галоўнага лягеру Нордгаўзэн-Дора прывозілі новых вязьняў на месца выбылых, так што колькасны стан наш быў менш-больш 2 000 чалавек.

*(Працяг на бачыне 6-й)*

---

Дык вось чаму беларускі прыход Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычмонд Гіл знаходзіцца пад апекай Усяленскага Патрыярха а новая царква ў Нью Ёрку прыносіць гонар усім беларусам.

Заметка Рэдакцыі на пачатку артыкулу А. Калодкі: "За зьмест і паданыя ў іх факты адказнасьць, бязумоўна, бярэ на сябе аўтар".

Не, дарагі сябра Акула, ня толькі аўтар нясе адказнасьць за сваю пісаніну, але й рэдактар. "Кажуць, што пры гэтай "баявой акцыі" прысутнічаў і Саўчыц". Кажуць! Хто кажа? І што кажа? Гэта ня факты, а проста паклёп чалавека, які можа быць не пры сваім розуме. Такі чалавек не адказвае, пра гэта і Ты ведаеш. Дык рэдактар, які друкуе "творы" хворых людзей, нясе поўную адказнасьць.

Надрукаваньне артыкулу поўнага недарэчнасьцяў, супярэчнасьцяў і няпраўды, нібы ўшанаваць памерлага 35 гадоў таму назад, а ў сутнасьці паклёп на праваслаўнага сьвятара, сьведчыць аб грамадзка-палітычнай нясьпеласьці рэдактара з недахопам унікліваасьці ў сутнасьць справы, недахопу ўяўленьня і аб'ектыўнага ашансаваньня. Што такі артыкул можа прынесьці карыснага грамадзтву?

Бязумоўна, падобнаму рэдактару важных спраў давяраць ня можна.

*Нью Ёрк, чэрвень, 1979 г.* *К. Мерляк*

Нашае палажэньне, што да памяшчэньня й харчаваньня, яшчэ пагоршылася, калі ў лютым 1945 г. прыбыў да нас транспарт вязьняў з канцэнтрацыйнага лягеру Грос Розэн. Новы транспарт прывёз з сабой крываўку, ад якой штодзённа ўмірала некалькі дзясяткаў чалавек. Нашае палажэньне было безнадзейнае. Мы ведалі, што тыфус, крываўка (дызынтэрыя) й голад не пазволяць нам пабачыць волі. Адзіным выхадам зь лягеру былі-бы печы-крэматорыі.

У сакавіку 1945 г. фронт стаў да нас прыбліжацца барждзэй і, што было для нас надзвычайна важна, із захаду. Зьявілася іскра надзеі, што прынамся некаторыя з нас выйдуць з гэтай фабрыкі сьмерці, як мы называлі наш лягер, жывымі.

На Вялікдзень 1945 г. фронт ад нас быў толькі за 60 км. На трэйці дзень Вялікадня, 4 красавіка атрымалі мы загад прыгатавацца ў дарогу, дарма, што лягерныя ўлады некалькі дзён перад гэтым афіцыйна запэўнілі нас, што эвакуацыі не прадбачыцца. Вестка аб эвакуацыі была для нас жудаснай неспадзеўкай. Ясна, што толькі невялікая колькасьць з нас, згаладалых, хворых, зморaных цяжкой працай, зможа выдзяржаць даўжэйшую дарогу.

Ноччу з 4-га на 5-га красавіка, атрымаўшы па букатцы хлеба й аднэй кансэрве, пад узмоцненай аховай, на чале з унтэршарфюрэрам Лямпэ, вязьні выйшлі зь лягеру. Хворыя-ж, чалавек каля 100, засталіся ў лягеры і, як было пазьней чуваць, іх застрэлілі.

Ішлі мы ўсю ноч у кірунку на Штольбэрг і Фрыдрыхсбрун. Згаладалыя вязьні накінуліся на атрыманую ежу і ўжо нараніцы блізу ўва ўсіх торбы былі пустыя. У часе першае ночы колькі чалавек уцякло, некалькі пры спробе ўцёку было застрэлена. Кіраўнік транспарту загадаў ісьці толькі ўдзень.

5-га красавіка даходзім да Бад Сюдэродэ й там на голым полі начуем. Усю ноч ідзе дождж. 5-га красавіка падаюць першыя маршавыя ахвяры спасярод вязьняў — гэта тыя, што ня могуць ісьці. Іх застрэльваюць ахоўнікі (вахманы). 6-га красавіка йдзём увесь дзень аж да мястэчка Тале. Там спыняемся й першы раз ад выхаду зь лягеру атрымоўваем эрзац-каву.

Спарнее лік адсталых ад маршавае калёны вязьняў. Спасярод ахоўнікаў кіраўнік транспарту зарганізаваў адумысловы малы адзьдзел, які расстрэльвае адсталых. Апошніх кажны дзень большае. Тэмпо маршу — 40 км на дзень. Ідзём бочнымі дарогамі. Начуем пераважна ў голым полі.

7-га красавіка даходзім да гораду Квэдлінбург. Там атрымоўваем па паўлітра зупы на кажнага й па 1 кг. хлеба на 10 чалавек. Увесь дзень 8 красавіка спачываем у вялізарным гумне за горадам. 9 красавіка на выклік перад выхадам у далейшую дарогу не змагло ўстаць чалавек 30 вязьняў. Усе яны былі застрэленыя ахоўнікамі.

Мы йдзём далей. Тэмпо маршу збольшваецца. Адстаючых штораз больш. Гінуць асабліва Жыды й Французы. Зь Беларусаў згінуў у той дзень, між іншых, Тамаш Гамончык з-пад Пружан. Ён працаваў у Ўсходняй Прусіі, за сабатаж быў высланы ў Асьвянцім, адтуль пераведзены ў Бухэнвальд, пазьней у Роттлебэродэ.

9-га красавіка ўвечары даходзім да Кропэнштат. Ноччу колькі вязьняў, прарэзаўшы ў гумне страху, уцякло. Раніцай атрымоўваем букатку хлеба на 10 чалавек і каву і йдзём далей. Мінаем мясцовасьці Гарцу Гадмэрслебэн, Ванцэнлебэн, Эйслебэн, бачым недалёка дарогі малыя канцлягеры, дзе вязьні яшчэ нармальна працуюць. За намі чуем выстралы, у мястэчках і сёлах ужо барыкады. Нашая дарога ўсланая трупамі нашых сяброў. Гэта рэкордны дзень ахоўнікаў — больш 100 вязьняў, адсталых у дарозе, застрэлілі ў гэты жудасны дзень.

Начуем у малым сяле ў двух гумнах. Якіх 60 вязьняў, зашыўшыся раніцай глыбока ў салому, ня выйшла на маршавы апэль. Кіраўнік транспарту, не далічыўшыся вялікай колькасьці людзей, загадаў ахоўнікам з сабакамі перашукаць гумны. Вязьняў знайшлі й на нашых вачох расстралялі. Атрымаўшы паўлітра зупы й букатку хлеба (1 кг) на 10 чалавек, маршыруем далей.

10 красавіка — гарачы й найстрашнейшы дзень. Вады няма, некаторыя вязьні выбягаюць з радоў і рвуць траву. Па іх зараз-жа страляюць. Адстаючых больш і больш. Уся дарога праз Эрцлебэн, Альвэнслебэн, Альтгальдэнслебэн, Нойгальдэнслебэн аж да Більстрынген усланая трупамі вязьняў. Бачым, што толькі адзінкам удасца ўтрымацца пры жыцьці. Немцы ахоўнікі ды іх прыслужнікі-форайбартары й капо шалеюць са злосьці, забіваючы на сьмерць або страляючы кажнага вязьня, які хоць на некалькі крокаў застаецца ад калёны.

У Більстрынген начуем. Увечары атрымоўваем каву-эрзац і адну букатку хлеба на 10 чалавек. Я пастанаўляю ўцякаць. Ноччу голымі рукамі разам з вязьнем-Палякам Янам Дэцам робім дзірку ў падмуроўцы гумна. Гумно абстаўлена ланцугом ахоўнікаў, усё-ж нам удаецца праравацца праз яго. За намі спрабуе шчасьця яшчэ 5 чалавек. Як даведваемся пазьней, чатырох зь іх застрэлілі. Мы на волі. Асьцярожна пасоўваемся на Захад.

* * *

Ужо пасьля вайны, у зборных лягерах амэрыканскай арміі спатыкаем сяброў з Ротлебэродэ. З 1996 чалавек паводля нашага падліку якім 80 - 90 удалося ўцячы, да месца прызначэньня Ліхтэнфэльдэ дайшло якіх 370-400 чалавек. Дзе-ж дзеліся іншыя? Яны засталіся спаць вечным сном у горах Гарцу.

Ізноў, па двух гадох бачу Гарц, жыва ягонымі краявідамі прыпамінаючы мясцамі мне далёкую а разам і як-жа блізкую сэрцу Наваградчыну. Ня бачу аднак сяньня прыгожай флёры Гарцу. У маіх вачох мільгаюць калёны вязьняў у паласатых вопратках, ахоўнікі-вахманы з сабакамі, форарбайтары й капо зь кіямі. Чую крыкі й лаянкі ахоўнікаў, чую стрэлы із стрэльбаў і рэвальвэраў, чую крыкі вязьняў у розных мовах, мальбу, каб ня білі, не стралялі, чую апошнія стогны, бачу кроў на асфальце й траве.

Адыходжу ад вакна, каб не глядзець на Гарц, які зьяўляецца магілай каля 1 500 вязьняў канцлягеру Роттебэродэ, каб не глядзець на дарогі Гарцу, што былі блізу ўсім нам найжудасьнейшымі й апошнімі дарогамі нашае мартыралёгіі й сьмерці.

Саромліва абціраю з вачэй сьлёзы...

*Красавік, 1947 г.*

*А. Калодка*
*165621 — 48054*

## ЖАЛОБНЫ МАРШ ГЭРОЯМ

(Сьпі пад курганам гэрояў).

Словы Янкі Купалы

Мэлёдыя М. Равенскага
Гарм. В. Качанскага

Andante

I. Сьпі пад кур-га-нам ге-ро-яў,
сьпі пра-цаў-нік і зма-гар! Не-се-ны вер-на та-
бо-ю, ці-ха схі-ліў-ся штан-дар, - дар.
Coda 2.
Твой мы пра-цяг-ва-ем шлях.

Сьпі пад курганам гэрояў,
Сьпі, працаўнік і змагар!
Несены верна табою,
Ціха схіліўся штандар.
Сьветлы твой дух адлятае
Вечнасьці ў небе шукаць,
З шляху яшчэ раз кідае –
Сьцяг свой высока трымаць!
Гордым ты быў барацьбітам,
Волю высока цаніў;
Куляй варожай забіты,
Гонар жыцьцём адкупіў.
Мы не пахілім галоваў,
Не уцячэм із радоў,
Месца тваё займе новы –
Помсьцім ахвярную кроў!
З кожнае кроплі паўстане
Сіла і воля, як сталь;
Кожны з нас волатам стане,
Сэрцаў ня зломіць нам жаль!
Моцнай узьняты рукою,
Горда ўзьвіваецца сьцяг.
Сьпі пад курганам гэрояў!
Твой мы працягваем шлях.

*Узята із "Зборніка Песьняў Беларускага Жаўнера"*
*Выд. Згурт. Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў, 1975 г.*

## ЯКІ НАФТАВЫ КРЫЗІС?

Падвышаньне цэнаў нафты сябрамі Арганізацыі Краінаў Нафтавага Экспарту (АКНЭ) спрычынілася да росту інфляцыі ў заходніх індустрыяльных краінах. Цэлы час чуем, што быццам да канца бягучага стагодзьдзя ўсе зямныя запасы нафты вычарпаюцца.

Часапіс Амэрыканскае Асацыяцыі Пашырэньня Навукі, "Веда", за 22 чэрвеня сёлета выясьняе нафтавую "загадку". Артыкул згадвае так званыя нафтавыя (смольныя) пяскі ў Канадзе.

"Ужо прыйшла пара камэрцыйнага выкарыстаньня густой (цяжкой) нафты, колькасьць якой вызначана на якіх чатыры трыльёны бочак на заходняй паўкулі.

Маецца на ўвазе густую нафту ў смольных пясках, якіх поўна ў заходняй Канадзе. Хоць ніхто сыстэматычна нафтавых пяскоў не дасьледаваў, ведамыя іх масавыя запасы. Вось чатыры найбольшыя: 1) Вэнэцуэля – ад аднаго да трох трыльёнаў бочак, 2) Канада – больш аднаго трыльёну бочак, 3) СССР – 1 трыльён, і 4) ЗША – 175 мільярдаў бочак.

Каб зразумець вялічыню гэткіх запасаў, трэба ведаць наступнае:

1. За цэлую сваю гісторыю людзі на сьвеце спалілі каля 300 мільярдаў бочак нафты (бінзіны).

2. Колькасьць ведамых запасаў краінаў Пэрсідзкага Заліву аблічаецца на 350 мільярдаў бочак.

Такім чынам запасы нафтавых пяскоў раўняюцца ў 13 разоў колькасьці выкарыстанай нафты на працягу нашае гісторыі і прынамся ў 11 разоў большыя за рэзэрвы Сярэдняга Ўсходу. Пры цяперашніх нормах ужываньня іх павінна хапіць на сотні гадоў.

Здабываньне нафты ня ёсьць лёгкім і таму яна дарагая. Прычынай ёсьць тое, што нафта густая (цяжкая) і каб плыла, трэба яе разагрэць або зрабіць жыдкой.

Эксплёатацыя нафтавых пяскоў у Канадзе даволі заавансаваная. Цяпер ужо прадукуюць дзьве фабрыкі, што працуюць на поўны маштаб. Аблічаюць, што адна бочка павінна каштаваць 19 даляраў, каб вярнуць уложаны капітал. Бочка нафты з краінаў Сярэдняга Ўсходу ўжо гэту цану перавысіла. Такім чынам выкарыстаньне нафтавых пяскоў збольшыцца."

Дык пра які "нафтавы крызіс" крычаць розныя малыя й вялікія палітыкі?

## ФОНД "ЗВАЖАЙ"

Ад 1-га травеня да 30-га ліпеня на "Зважай" атрымана: І.Каваленка (за продаж) 11,20 даляраў, М.Нікан – 31,31 дал., Грэбень – 23.00 дал., Ул. Курыла – 11,50, Беларускі Клюб у Манчэстары – 45,00, др. Я.Сажыч – 23,00, С.Гутырчык – 23,00, С.Гутырчык (з продажы) – 47,00, Зь лісты ахвяраў (зьбіраў А.Маркевіч): А.Стрэчань – 5.00, А.Дубяга – 6.00, М.Шуст – 5,00, А.Ярахові́ч – 3,00,

А. Корбут – 5,00, М.Войтанка – 1,00, В. Машанскі - 3,00, П.С. – 1,00, Р. В. – 10,00, М.Б. – 1,00, Г.Д. - 1,00, А.Сільвановіч – 5,00, Я. Азарка – 5,00, І.Бруцкі – 1,00, К.Верабей – 2,00, С.Полацкі – 2,00, а.Страпко – 5,00, прыбытак з вымены грошы – 8,00, К.Акула (з продажы) – 15,00, Ч.Найдзюк – 5,70, Слонімскі – 11,50, Марыя – 3,00, др. В.Сянькевіч – 15,60, Я.Каваленка (продаж) – 14,48, а. Ян Пякарскі – 13,40.

*Разам – канад. 362 дал. 69 ц. Усім вялікае дзякуй!*

## ЦІ БЫЎ БЕЛАРУСКІ ЛЕГІЁН?

Адзін з нашых чытачоў піша: "Пераглядаючы Вашыя "Змагарныя Дарогі", ніяк не магу зразумець розьніцы "Дывізія Беларусь" і пачуты мной назоў "Беларускі Легіён", аб якім прачытаў, здаецца, у газэце "Раніца", а будучы тады сілай забраны акопы капаць каля гораду Торуня, навязаў быў сувязь з рэдакцыяй "Раніцы", паслаў быў заяву ёй, каб мяне выклікалі ці прыслалі дакуманты, каб я мог прыехаць у Бэрлін і паступіць у рады беларускага войска, якое тады зьбіралі ў названы "Легіён". Ці гэты Легіён гэта тое самае, што ў кнізе "Змагарныя Дарогі" называецца "Дывізія Беларусь"?"

Адказ:

Пра "Беларускі Легіён" даводзіцца чуць ад Вас. Падчас зборкі матар'ялаў для дакумэнтальнае аповесьці "Змагарныя Дарогі", аўтару яе аніразу не даводзілася чуць пра "Беларускі Легіён". Гэта ня значыць што, прыкладам, "Раніца" ня ўжывала такога тэрміну. Магла ўжываць, а на думцы мелася, бязумоўна, тая фармацыя, што ў кнізе завецца "Дывізія Беларусь".

*САЛТ (скарот лацінскімі літарамі) – Умова Абмежаваньня Стратэгічнае Зброі*




БАДАЙ, ШТО ТАКОЙ СЕТАЧКАЙ ГЭТКАЙ ЦАЦЫ НЯ ЗЛОВІШ!